# ВІТАЕМ VIII З'ЕЗД БГКТ!

**30 мая 1976 года з розных мясцовасцей Беласточчыны, з Варшавы і Гданьска, прыбудуць у Беласток дэлегаты і госці на VIII з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Маючы ў сэрцы толькі дабро нашай Радзімы — сацыялістычнай Польшчы, дабро развіцця асветы і культуры на роднай мове сярод беларускай нацыянальнай меншасці, абмяркуюць яны найважнейшыя галіны дзейнасці ўсёй нашай арганізацыі і вызначаць напрамкі і формы далейшай яе працы. Паставяць істотныя праблемы і абмяркуюць іх адкрыта і шчыра, усебакова і глыбока прааналізуюць і вырашаць, як гэта належыцца на з'ездзе — найвышэйшым устаноўчым форуме нашага таварыства.**

**Адбываецца VIII з'езд у юбілейнай атмасферы XX-годдзя БГКТ і падводзіць ён вынікі не толькі мінулых чатырох год, але завяршае значны этап у дзейнасці нашай арганізацыі. Ацэньваючы пройдзенае, можна з чыстым сумленнем сцвердзіць: нам няма чаго саромецца за адышоўшае юнацтва БГКТ — яно сышло на самаахвярнай, салідной і плённай дзейнасці. Наша таварыства заўсёды намагалася ісці крок у крок з духам часу і патрэбамі нашага асяроддзя. Многія сотні карысных грамадскіх пачынаў, тысячы выступленняў самадзейных мастацкіх калектываў; дзесяткі тысяч лекцый, дакладаў, аўтарскіх сустрэчаў, праекцый савецкіх фільмаў, фотавыставак; сотні тысяч экземпляраў „Нівы", „Беларускіх календароў", зборнікаў твораў нашых аўтараў — вось адно выбраныя каласы нашага жніва. БГКТ прыгожа і трывала ўпісалася ў грамадскае жыццё краіны, уносячы ў яго і свой заўважальны ўклад.**

**Як для кожнага чалавека, так і для нашай арганізацыі дваццацігадовы ўзрост ужо абазначае ўваход у поўную сталасць намераў, рашэнняў і дзеянняў. І адпаведна да гэтага вялікія і нялёгкія заданні яе чакаюць: павелічэнне шэрагаў БГКТ у вёсцы і горадзе, удасканальванне працы гурткоў, разгортванне самых разнастайных форм мастацкай самадзейнасці пры няспынным павышэнні яе выканаўчага майстэрства, павелічэнне колькасці дзяцей і моладзі на ўроках і курсах роднай беларускай мовы, працягванне прагрэсіўных традыцый нашай гісторыі, захоўванне вуснай народнай творчасці і іншых помнікаў нашай культуры — гэта толькі некаторыя дзялянкі нашага штодзённага жыцця, дзе кожны член БГКТ знойдзе адпаведны для сваіх зацікаўленняў карысны і высакародны занятак.**

**Мы ўпэўнены, што VIII з'езд БГКТ і яго рашэнні ўліюць новыя сілы ў нашу арганізацыю і будуць натхняць усіх нас на самаахвярную працу для супольнага дабра.**


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 22 (1057) ГОД XXI 30 МАЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.


**(СА СПРАВАЗДАЧНАГА ДАКЛАДА ЎСТУПАЮЧАГА ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ VIII З'ЕЗДУ БГКТ)**

Мінулы чатырохгадовы перыяд дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства праходзіў пад уздзеяннем знамянальных падзей у нашай краіне, якімі былі VII з'езд ПАРП і выбары ў Сейм і ваяводскія рады нарадовыя. Справаздачна-выбарная кампанія ў нашай арганізацыі пачалася ў часе агульнанароднай дыскусіі над матэрыяламі VII з'езду ПАРП. На сходах у аддзелах і гуртках БГКТ шырока папулярызаваліся грамадскія і гаспадарчыя дасягненні мінулага 5-годдзя і прынятая з'ездам партыі праграма далейшага дынамічнага развіцця сацыялістычнага будаўніцтва ў Польшчы, а таксама здабыткі 20-гадовай дзейнасці БГКТ, асабліва ў апошнія чатыры гады.

### НАША АРГАНІЗАЦЫЯ

Цяпер колькасць членаў і гурткоў нашай арганізацыі наогул такая, як у часе яе VII з'езду ў 1972 г., яна складае 5 931 членаў, якія ўваходзяць у 187 гурткоў і 8 аддзелаў. Але на працягу апошніх 4 год усё ж адбываліся значныя змены ў колькасным стане БГКТ. На пераломе 1973/74 гадоў была праведзена ў аддзелах і гуртках справаздачна-выбарная кампанія з мэтай актуалізаваць лік членаў і гурткоў, ацаніць дзейнасць гурткоў, палепшыць уплочванне членскіх складчын і актывізаваць працу гурткоў і аддзелаў. Па яе ходу выявілася, што ў выніку вялікага руху вясковага насельніцтва, асабліва моладзі, некаторыя гурткі перасталі існаваць, а ў некаторых зменшылася колькасць членаў. Хоць у тым жа часе ўступалі новыя члены, стан нашай арганізацыі 31 снежня 1974 г. складаў 5 290 членаў і 178 гурткоў. Найбольш членаў і гурткоў зменшылася ў гайнаўскім і сакольскім аддзелах. Дзякуючы намаганням штатных працаўнікоў і актыву ў 1975 г. колькасць членаў і гурткоў павялічылася, аднак не наступіла значнейшае пашырэнне арганізацыі. Наогул нарастаючае з кожным годам змяншэнне вясковага насельніцтва, асабліва моладзі, будзе выклікаць усё большыя цяжкасці ў засноўванні новых гурткоў у вёсках. У сувязі з гэтым нававыбранае Галоўнае праўленне павінна ўводзіць такія формы культурна-асветнай працы, якія зацікавілі б старэйшае пакаленне сялян.

Члены БГКТ — гэта людзі, заангажаваныя ў грамадскую дзейнасць, яны з'яўляюцца актыўнымі дзеячамі ПАРП, ЗСЛ, ССПМ, а таксама ОСП, ЛЗС і іншых арганізацый. Многія з іх належаць да перадавікоў сацыялістычнай працы ў прамысловасці і перадавых гаспадароў у вёсцы.

(Працяг на стар. 4)



*Самадзейнікі з Гарадка ў інсцэнізацыі „Адвечнай песні" Янкі Купалы.*
*Фота Я. Цялушэцкага.*



*Ізноў у садах бушуе бэз...* *Фота Я. Цялушэцкага.*

6 мая ў беластоцкай кураторыі адбылася нарада дырэктараў гмінных школ, у якіх навучаецца беларуская мова. Былі таксама запрошаны дырэктары школ, дзе беларуская мова магла б быць, але яе няма.

Адкрываючы нараду, беластоцкі куратар Эдвард Крынскі напомніў аб адным з галоўных прынцыпаў нацыянальнай палітыкі нашай дзяржавы — даць магчымасць усім нацыянальным меншасцям вывучаць сваю родную мову. І таму, пераходзячы да канкрэтнай справы беларусаў у нашым ваяводстве, хопіць, каб сабралася ў школе сямёра дзяцей, якія хочуць вывучаць сваю родную мову, а дырэктар школы абавязаны такую магчымасць кожнаму дзіцяці стварыць.

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА

З дакладам выступіў візітатар кураторыі па справах беларускай мовы Аляксандр Іванюк.

Як гаварылася ў дакладзе, найбольш стабільна і масава выкладалася беларуская мова на працягу дзесяцігоддзя 1961-71 г.г. Тады беларускую мову вывучала 10-11 тысяч дзяцей. Цяпер жа колькасць дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову, складае толькі 4,6 тысячы. І гэта акалічнасць стала тэмай нарады. Прычыны такога стану ў навучанні беларускай мовы разнабаковыя і складаныя. Сярод іх і рэарганізацыя школ, і агульны спадак колькасці дзяцей у вёсцы і шмат, шмат іншых.

Галоўнай прычынай змяншэння колькасці дзяцей, якія вывучалі беларускую мову, дакладчык лічыць рэарганізацыю вясковага школьніцтва. Пасля рэарганізацыі ў 46 школах Беласточчыны не было адноўлена навучанне беларускай мовы. І нельга звальваць усёй віны на прынцып добраахвотнасці ў навучанні роднай мовы. Жыццё паказала, што там, дзе ўрокі беларускай мовы былі цікавыя, багатыя зместам, дзе створаны быў адпаведны клімат у асяроддзі, там беларуская мова выкладаецца і далей, а працэнт вучняў на ўроках беларускай мовы вельмі высокі.

Гэта ж падкрэслівалі і дырэктары школ, выступаючы ў дыскусіі. Яны прасілі візітатараў дапамагчы ў аднаўленні беларускага кнігазбору ў школьных бібліятэках, прасілі купляць кніжкі больш для дзяцей малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту, каб і літаратура была адным са стымулаў навучання. Быў зроблены таксама закід у бок візітатара, што забывае прыпамінаць настаўнікам беларускай мовы аб ролі „Нівы" і „Зоркі" ў працэсе навучання, у

→

выніку чаго і гэта агульнадаступная форма кантактаў з мовай не ўсюды поўнасцю выкарыстоўваецца.

Як гаварылася ў дыскусіі, цяжкасці вынікаюць таксама з арганізацыі давозу дзяцей у школы. Бацькі не згаджаюцца, каб дзіця заставалася ў школе пазней і потым дабіралася дадому невядома чым. У гэтай справе адразу ж выказаўся куратар: абавязак кожнага дырэктара школы зрабіць такі расклад урокаў і такі час вызначаць на ад'езды дзяцей са школы, каб гэта ні ў якім выпадку не было перашкодай у навучанні роднай мовы.

Шмат дыскусіі выклікае цяпер аплата для настаўнікаў за гадзіны беларускай мовы ў школах, якія яшчэ не ахоплены рэарганізацыяй, г.зн. не сталі яшчэ ані гміннымі, ані іх філіяламі. Але, як сцвердзіў куратар, ужо ад новага навучальнага года такіх школ практычна не застанецца, бо ўсе яны амаль або будуць ліквідаваны, або стануць філіяламі гмінных школ, дзе настаўнікі атрымоўваюць звычайную аплату за 26-гадзінную стаўку і даплату за кожную эфектыўна прапрацаваную гадзіну.

Нямала клопатаў выклікае навучанне беларускай мове ў злучаных групах дзяцей з трох класаў. Як дзяліць прызначаныя на гэта тры гадзіны ў тыдзень? Адказваў візітатар міністэрыяльны: урокі беларускай мовы трэба ў такіх групах весці эластычна, згодна з патрэбамі групы. Усё залежыць ад умоў і магчымасцей настаўніка.

Куратар Э. Крынскі звярнуў увагу на тое, што ў некаторых гмінах, у беларускіх асяроддзях, у школах няма беларускай мовы. Выясніць гэтую справу ён папрасіў дырэктараў школ з Шымак, Чарэмхі і Міхалова. Пры гэтым вельмі шкадаваў куратар, што няма на нарадзе дырэктара школы з Гарадка. Відавочна, і да яго куратар меў нейкую справу. Выясненні дырэктараў былі розныя, наогул знаныя: або няма каму вучыць, або няма каго вучыць...

Што ж, цяжка, відаць, сказаць шчыра, што справу не дастаткова дагледзелі, не дапрацавалі, не ўвайшлі ў патрэбны кантакт з бацькамі, не падабралі адпаведнага настаўніка на адпаведнае месца.

Галоўнае ў гэтай вельмі складанай і далікатнай справе, як сказаў куратар, — хацець. Дырэктар школы шмат можа.

Візітатар Міністэрства асветы Станіслаў Янкоўскі прасіў дырэктараў звяртаць больш увагі на ўзровень навучання беларускай мовы, бо бацькі хочуць бачыць вынікі навучання. Міністэрства лічыць, сказаў візітатар, што рэарганізацыя асветы толькі ў нейкай меры завагала навучанне беларускай мовы, але зборная школа стварае значна большыя магчымасці для навучання беларускай мовы: і больш дзяцей у школе, і высокаадукаваныя кадры настаўнікаў. А ў асведамленні асяроддзя візітатар бачыць шырокае поле дзеяння ГП БГКТ і яго членаў. Са свайго боку Міністэрства разважае справу новых праграм для беларускай мовы і дапасаванне іх да задач новай дзесяцігадовай школы.

Падсумоўваючы сустрэчу, куратар Э. Крынскі яшчэ раз падкрэсліў, што за навучанне беларускай мовы ў школе адказвае не грамадская ўстанова, як БГКТ, а асветныя ўлады, і ў першую чаргу дырэктары школ. „Прынцып добраахвотнасці ні ў якім выпадку не можа значыць абыякавасці з боку дырэктараў школ. Такія адносіны недапушчальныя", — сказаў куратар.

**Я. Чэрнякевіч**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

**У старакорнінскіх кааператыўшчыкаў ● Сахонеўскія жанчыны ● Вынікі чытальніцкага конкурсу ● Выхадцы з Беласточчыны ў беларускай энцыклапедыі ● Літаратурная старонка ● Новы том белавежскай бібліяграфіі ● З маёй званіцы ● Весткі з Бельска, Кожына, Семяноўкі, Чаромхі, Дашоў, Гайнаўкі, Галадоў, Піражкоў, Пашкоўшчыны, Орлі ● Калі сніцца дым ● Песня „Drzewa ruszają w drogę".**



*Уезд у горад Светлагорск.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З БЕЛАРУСІ

# У светлагорскіх хімікаў

Сёння нават не верыцца, што яшчэ зусім нядаўна тут, над прахадной, вісеў яркі транспарант „Усесаюзная ўдарная будоўля". Цяпер гэта ўжо гісторыя. І самая галоўная дата ў ёй — 23 чэрвеня 1958 года. Менавіта тады ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР прынялі пастанову аб будаўніцтве ў Беларусі завода штучнага валакна.

У снежні 1960 года ў гарадскім пасёлку Шацілкі, што на Гомельшчыне, на велізарным заснежаным полі былі забіты першыя калкі. З розных гарадоў пайшлі сюды самыя тэрміновыя грузы. Завод будаваўся ўсёй краінай. Цяпер ужо было вядома, што будзе ён выпускаць па сто тон кордната валакна ў суткі. Але мала хто здагадваўся, што менавіта гэты завод з'явіцца прычынай нараджэння новага горада — Светлагорска.

У студзені 1965 года Дзяржаўная камісія прыняла ў эксплуатацыю першую чаргу вытворчых магутнасцей прадпрыемства па выпуску 8,9 тыс. тон кордната валакна ў год. А яшчэ праз два гады, таксама ў студзені, гэтыя магутнасці ўзраслі ўдвая. У лютым 1968 г. уступіў у строй апошні тэхналагічны паток завода.

Так гаворыць завадская статыстыка. А вось як успамінае хвалюючыя дні пуску адна з лепшых светлагорскіх ткачых Галіна Нікалаюк:

— Ніколі не забуду навагоднюю ноч 1965 года. Чакаем, хвалюемся. Ужо даўно надзелі на прадзільную машыну гарнітуру... І вось начальнік змены Лідзія Пусько загадвае: „Уключаць рабочыя месцы!" Апаратура ўключана. Паказалася першая кордная нітка. З гэтай ніткай мы і пайшлі ў заводаўпраўленне на навагодні баль. Там нас сустрэлі з такой радасцю, што мы разгубіліся. Цяпер дык я разумею, гэта ж быў дзень нараджэння нашага завода! А тады проста адчувала сябе шчаслівай.

Сёння ў Светлагорску цяжка знайсці ткачыху, роўную Галіне па майстэрству. Яна абслугоўвае чатыры прадзільныя агрэгаты замест двух, прадугледжаных вытворчай нормай. Стала ініцыятарам руху „Дзве пяцігодкі — за адну". І сама ж паказала прыклад яго ажыццяўлення. На рабочым календары Г. Нікалаюк — 1981 год.

У Галіны нямала прадаўжальніц. Па дзве асабістыя пяцігодкі выканалі ткачыхі Зінаіда Кіжнерава, Галіна Гошка, круцільшчыца Іна Кромкіна.

Тут падлічана, што паўтарэнне прафесіянальнага вопыту ткачыхі Н. Гаўрыловіч дае штогод эканамічны эфект 18,9 тыс. рублёў. Яшчэ больш — 24,4 тыс. рублёў — прыносіць заводу шчодрае майстэрства круцільшчыцы Веры Фаміной.

Патрэбнасць у прадукцыі завода з кожным днём расце. І гэта зразумела. Выпускае ж ён высокатрывалую кордную тканіну, якая так неабходна для вырабу каркасаў аўтамабільных шын.

Прадукцыю светлагорскіх хімікаў чакаюць на Кіраўскім, Днепрапятроўскім, Маскоўскім, Ленінградскім, Волжскім, Яраслаўскім, Ніжнекамскім, Варонежскім і іншых шынных заводах і камбінатах. Ведаюць яе і ў Балгарыі, Венгрыі і ГДР.

Але не толькі кордная тканіна з'яўляецца своеасаблівай візітнай карткай завода. Ён выпускае яшчэ серавуглародны рэктыфікат, сульфат натрыя, нестандартнае абсталяванне, газавідны кісларод, штапель з адпадаў валакна, тэхнічную віскозную нітку, дывановыя дарожкі. Усё гэта вельмі патрэбная прадукцыя. І пошук рэзерваў павелічэння яе выпуску на заводзе вядзецца пастаянна, творча і мэтанакіравана. Уводзіцца новая тэхніка і перадавая тэхналогія, праводзіцца рэканструкцыя цэхаў, устаноўка дадатковага абсталявання, аўтаматызацыя шэрагу тэхналагічных працэсаў.

Традыцыйнымі сталі на заводзе конкурсы на ганаровыя званні: „Лепшы калектыў-рацыяналізатар", „Лепшы рацыяналізатар завода", „Лепшая творчая комплексная брыгада".

Прычын, пабуджаючых працоўную і творчую актыўнасць светлагорскіх хімікаў, шмат. Але ёсць самая галоўная — камуністы завода пастаянна клапоцяцца аб задавальненні людскіх патрэб і запросаў свайго калектыву. Яны змаглі стварыць сапраўды здаровы маральна-псіхалагічны клімат. Усяму гэтаму дасканала садзейнічаў Працоўны Кодэкс светлагорскага хіміка, зацверджаны адміністрацыяй, партыйным і завадскім прафсаюзным камітэтамі. Менавіта ім вызначана і прафесіянальная, і грамадская актыўнасць кожнага. Вялікае выхаваўчае значэнне мае і ўрачыстае ўручэнне маладым рабочым Працоўнай пуцёўкі, стаўшай сімвалічным пропускам у калектыў.

З кожным годам растуць фонды развіцця вытворчасці. Яны выкарыстоўваюцца на стымуліроўку рабочай актыўнасці, на паляпшэнне ўмоў працы і быту хімікаў. Усяму гэтаму садзейнічае паспяховае ажыццяўленне завадскога плана сацыяльнага развіцця, згодна з якім у Светлагорску паявіўся цудоўны Палац культуры хімікаў, паліклініка, спартыўны комплекс з плавальным басейнам, санаторый-прафілакторый, піянерскі лагер, дзіцячая і юнацкая спартыўныя школы, жылыя дамы, інтэрнаты, пяць дзіцячых дашкольных устаноў. За апошнюю пяцігодку на заводзе пабудавана 23 тыс. квадратных метраў жылля...

**І. Катляроў**
фота Э. Трыгубовіча

## ШТО НОВАГА?

### ЦІ ЛЯТАЛІ ЛЮДЗІ ДЗВЕ ТЫСЯЧЫ ГАДОЎ НАЗАД?

Пад кіраўніцтвам амерыканца Мітчэла Бэкі група даследчыкаў рыхтуецца ажыццявіць палёт на паветраным шары. Яны мяркуюць, што такі спосаб перамяшчэння быў вядомы дзве тысячы гадоў назад старажытным жыхарам Перу — інкам. Эксперымент будзе праходзіць над раўнінай Наска (за 450 кіламетраў на поўдзень ад перуанскай сталіцы Лімы). На гэтай раўніне захавалася старажытная пляцоўка з гіганцкім малюнкам лятаючай птушкі — своеасаблівы, на думку раду вучоных, аэрадром інкаў.

Сваім палётам Мітчэл Бэкі імкнецца даказаць, што старажытныя жыхары Перу ўмелі лятаць на паветраных шарах, для чаго і пабудавалі „аэрадром" ў Наска. Даследчыкі сцвярджаюць, што людзі тых часоў, гледзячы на дым, што ўзнімаўся над вогнішчам, „змаглі зразумець прынцып палёту цела больш лёгкага, чым паветра".

Цяпер ствараецца паветраны шар „Кондар 1". Яго аб'ём каля трох тысяч кубічных метраў. Шар робіцца з тканіны, амаль такой жа, якую выка... жытныя інкі.

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 29.V.** 6.00 Tech. Rol. Wskaz. met. 6.30 Mat. 9.00 Dla szkół (kl. VIII) Nauka o czł. Sprawy 15-latków. 10.00 (kl. VII) Zool. Ochr. środ. 10.30 Zabawa w małżeństwo — film fab. NRD. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Bot. 15.30 Red. Szk. zap. 15.40 Pr. I prop. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Dzien. 16.10 Obiektyw. 16.30 Rodowody. 17.00 Za kierownicą. 17.50 Sobota Mł. 18.35 Zgadnij, kim jestem. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Bierz forsę i w nogi — film fab. am. 21.45 Dzien. 22.05 Sport. 22.20 Dobry wieczór — tu Łódź. 23.20 Opow. Star. Pana.

*

**Niedziela 30.V.** 6.25 Tech. Rol. Fiz. 6.55 Bot. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Pr. dnia. 8.55 Sport. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.40 Gwiazdy na arenie. 11.40 Radar. 11.55 Dzien. 12.15 Pr. muz. 13.15 Wielka gra. 14.15 Dla dzieci. 15.05 BANK 440. 16.25 Los. Duż. Lot. 16.40 Sekrety jeziora. 17.00 Refl. ob. 17.15 Bohaterowie szosy. 17.40 Violetta i Julia. 17.55 Sport. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Wyznawcy Apokalipsy — film ser. fr. 21.25 BANK 440. 22.10 MIECZYSŁAW FOGG. 22.40 Sport.

*

**Poniedziałek 31.V.** 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przyg. Mat. 15.15 Fiz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17 Dla dzieci. 18.20 Echo stad. 18.50 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Teatr TV: E. O'Neill — Daleko od Sodomy. 22.05 Dzien. 22.20 Recital K. Prońko.

*

**Wtorek 1.VI.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Mat. 10.00 Dla szkół (kl. I—III) Czerw., żółte, ziel. 10.10 Wyznawcy Apokalipsy — film ser. fr. 12.55 Dla szkół śr. Rodzina współcz. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Upr. rośl. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Jeńcy króla mórz — film fab. radz. 18.15 Gospodarność i ja. 18.30 Stud. Mł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Przyp., radz. 20.30 W starym kinie. 21.20 Świat i Polska. 22.05 Spotkania z Temidą. 22.45 Dzien.

*

**Środa 2.VI.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Upr. rośl. 9.00 Nauczyciel śpiewu — film fab. radz. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przygot. Fiz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.40 Los. Mał. Lot. 18.00 Spektakl trwa — rep. 18.35 Spotk. z medycyną. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Rolnictwo 76. 20.35 Letni sen — film fab. szwed. 22.10 Od Helsinek do Warszawy. 22.40 Dzien. 22.55 Lekt. Pegaza.

*

**Czwartek 3.VI.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Mat. 9.00 Ostatni tabun — film fab. radz. 13.45 Tech. Rol. Chem. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 TELERANEK. 18.05 Towarzysze broni. 18.40 Dwie strony medalu. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Przyp., radz. 20.30 Nie kupujcie Rolls-Royce'ów — film fab. ang. 21.35 Dwie strony medalu. 21.45 Pegaz. 22.30 Dzien.

*

**Piątek 4.VI.** 6.00 Tech. Rol. Chem. 6.30 Mech. rol. 9.00 Nie kupujcie Rolls-Royce'ów — film fab. ang. 11.05 Dla szkół (kl. I—III lic.) Wych. tech. Łączność rad. 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przygot. Mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Latający Holender. 17.40 Spawacz — W. Szmid. 18.05 Przez maskę płetwonurka — film dok. fr. 18.35 Eureka. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Żelazna obroża — film fab. 21.15 Drogowskazy. 22.00 Dzien. 22.15 Widowisko muz.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 28.V** — 8.00 Film fab. 13.25 Film fab. 17.00 Koncert. 17.35 Spektakl. 19.30 Koncert.

**Sobota 29.V** — 11.40 Film fab. 14.40 Koncert. 15.40 Film anim. 17.05 Śpiewa A. German. 17.35 Film fab. 19.30 Panorama film. 21.00 Sport.

**Niedziela 30.V** — 11.30 Film fab. 14.25 Pr. muz. 15.00 Panorama międzynar. 15.30 Filmy anim. 16.15 Filmy z Chaplinem. 17.15 Koncert. 18.00 Klub film. 19.30 Ork. symf. 20.25 Sport.

## КІНО

**Białowieża** Noce i dnie II s. 1—4 — pol. Rozerwany pierścień I i II s. — pol. 5—6.

**Czeremcha** Tajemniczy blondyn w czarnym bucie — fr. 1—2. Polska gola! — pol. 5—6.

**Czyże** Doktor Judym — pol. Gniewna podróż — bułg. 2—6.

**Dubicze Cerkiewne** Urodziny Matyldy — pol. El Dorado — USA. 2—6.

**Gródek** Los generała — radz. 5—6.

**Kleszczele** Życie rodzinne — pol. 1—2. Królewskie marzenie — USA. 3—4. Gdzie jest jubilat — węg. 5—6.

**Michałowo** Kasztany miłości — wł. 1—2. Jedynym wyjściem jest śmierć — kan. 3—4. Ani słowa o futbolu — radz. 5—6.

**Mielnik** Swój wśród obcych, obcy wśród swoich — radz. 2. Śmiercionośny ładunek — USA 5—6.

**Milejczyce** Przygody Tolka Borówki — radz. 1—2. Grzeszna natura — wł. 3—4. Być kobietą — radz. 5—6.

**Narew** Charley Varrick — USA. Kobiety, które kochałem — rum. 2—6.

**Narewka** Rodzinny gang — wł. Trzej świadkowie — czes. 2—6.

**Nurzec** Tydzień szaleńców — rum. 1—2. Polska gola — pol. 3—4. Straszna teściowa — radz. 5—6.

**Orla** To ja zabiłem — pol. Manewry Dniepr — radz. 2—6.

**Rajsk** Miasto niezwykłe Warszawa — pol. Żeglarz znad Dunaju — węg. 2—6.

B.Z.Graf. Zam. 1266 F-2




Толькі выйдзеш з трамвая, а ў вуха разам з вячэрнім паветрам уліваецца песня. На Смычковай спяваюць. Разам з надыходам вясны расцвіло і студэнцкае жыццё. На кожнай лавачцы, а нават на сходах ля самага ўваходу ў акадэмік групы студэнтаў і студэнтак. Звонкімі галасамі да позняй ночы пераклікаюцца гітары. Не менш вясёлы ды ўрачысты настрой і ў пакоях. Праз адчыненыя вокны, адрываючыся ад серабрыстых далоняў месяца, улятаюць, перамешаныя з цудоўным араматам красак, апошнія подыхі вясны. Часам заблудзіць запазнелы пялёстак чарэшневага цвету. І раптам чуецца спакойнае і шчырае: „Люблю наш край, старонку гэту...“ Гэта студэнты беларускай філалогіі.

Заўсёды тут так, калі набліжаецца экзаменацыйная сесія. Зразумела, трэба ж адпачыць ад залікаў і ўнутрана падрыхтавацца да экзаменаў, якія з'яўляюцца парогам на наступны курс. І так аж пяць год. На беларускай філалогіі вучыцца 46 студэнтаў, гэта значыць васемнаццаць на першым курсе, трынаццаць — на другім, восем — на чацвёртым і сем — на пятым. Не хапае трэцяга курса. Але гэта быў проста перарыў у прыманні. Яшчэ месяц — і будзе тут ціха, спакойна, аж да самага кастрычніка, хіба што толькі ў ліпені прыедуць сюды здаваць уступныя экзамены.

Прыпамінаю сабе гэтых сем асоб з апошняга курса. Гэта будзе апошні месяц у іх студэнцкім жыцці. Парвуцца сяброўскія сувязі. Кожны пойдзе сваёй дарогай. Нехта, можа, захоча далей прадаўжаць вучобу. Але пакуль што, пакуль на іх месца прыйдуць другія, мусяць яшчэ вытрымаць сур'ёзны дыпломны экзамен. Ідзе перапіска дыпломных работ, наносяцца апошнія папраўкі і распачынаецца падрыхтоўка да абароны. Дзве асобы пішуць працы па мовазнаўству ў доктар Э. Смулковай, а астатнія — па літаратуры ў доктара А. Баршчэўскага. Сярод іх ёсць і працы на фальклорную тэму. Канец чэрвеня закрые дзверы навучальнага года. Частка студэнтаў паедзе на экскурсіі, частка дамоў, а невялікая група пад кіраўніцтвам Паўла Гілеўскага, якой апякуецца А. Баршчэўскі, выедзе, каторы ўжо год падрад, на Беласточчыну збіраць фальклор. Вясёлае жыццё студэнтаў. **Міхась**

# Сустрэча з пісьманосцамі

6 мая гэтага года ў клубе „Рух“ пры вул. Леніна ў Гайнаўцы адбылася сустрэча пісьманосцаў (прозвішчы ўсіх іх мы падалі ў 18 нумары „Нівы“ ад 2 мая), якія атрымалі найлепшыя вынікі ў падпісцы на „Ніву“, з прадстаўнікамі рэдакцыі штотыднёвіка „Ніва“, ваяводскай паштовай установы (ВУП) і РСВ „Прэса-кніжка-рух“.

Сустрэча прайшла ў цёплай і сардэчнай атмасферы, пры традыцыйнай чарцы віна.

Ад імя ВУП выступіў намеснік дырэктара Л. Пракаповіч, ад імя рэдакцыі „Ніва“ сакратар А. Чэчуга і журналіст Я. Цялушэцкі, ад імя РСВ „Прэса-кніжка-рух“ — М. Гогель.

Сакратар рэдакцыі „Ніва“ А. Чэчуга ўручыла запрошаным пісьманосцам прызначаныя рэдакцыяй боны, а таксама значкі і флажкі, падрыхтаваныя з нагоды 20-годдзя тыднёвіка „Ніва“.

За ўзнагароды падзякаваў пісьманосец М. Панфілюк з паштовай установы ў Дубічах Царкоўных, які адначасова з'яўляецца актыўным карэспандэнтам. Ён паабяцаў, што ў раёне яго абслугоўвання „Ніва“ будзе ў кожнай хаце! Прадстаўнікам рэдакцыі асабліва прыемна было пачуць такія шчырыя словы.

Затым усе прысутныя з увагай слухалі Ул. Гуралеўскага, пісьманосца з пошты ў Рыбалах, які дасягнуў найбольшай падпіскі на „Ніву“. У раёне яго абслугоўвання гэта газета — самая папулярная. У цэлай рыбалаўскай акрузе. Тутэйшым сялянам не трэба напамінаць, калі трэба рабіць падпіску, яны самі памятаюць і дамагаюцца. „Нівай“ усе даражаць. Яна тут у асаблівай пашане ва ўсіх чытачоў. Чытаюць яе і старыя, і дарослыя, і дзеці таксама. 160 экземпляраў, якія атрымлівае Ул. Гуралеўскі, не змяшчаюцца ў самай аб'ёмістай паштовай сумцы. Каб даручыць іх усе, трэба папахадзіць і паездзіць.

Пісьманосцы ахвотна расказвалі аб сваёй штодзённай працы ў „тэрэне“, дзяліліся вопытам. Некаторыя падказвалі, якім шляхам здабываюць новых падпісчыкаў на „Ніву“. Даведаліся мы, за што любяць і цэняць



*Сакратар „Нівы“ А. Чэчуга ўручае памятны значок найлепшаму распаўсюджвальніку „Нівы“ Уладзіміру Гуралеўскаму.*

„Ніву“ яе чытачы, якія артыкулы і заметкі найбольш ахвотна чытаюць, а якія не. Цікава было пачуць аб тым, што нашых чытачоў звязвае з „Нівай“, што іх у апошні час цікавіць. Нават канкрэтна, якія матэрыялы. Гэта быў шырокі абмен думак.

Нашы саюзнікі абяцалі павысіць колькасць падпісчыкаў на „Ніву“, актыўней яе прапагандаваць у сваім вясковым асяроддзі.

Аб'яўляем тады адкрытым спаборніцтва пісьманосцаў. Хто першым дойдзе да 200 падпісчыкаў? Аб гэтым неабходна адразу паведаміць рэдакцыі „Нівы“ Найбольшыя шанцы ў гэтым спаборніцтве маюць У. Гуралеўскі, У. Весялоўскі, М. Панфілюк. Пісьманосец У. Гуралеўскі вельмі блізкі гэтага ліку. Але можа здарыцца нечаканы сюрпрыз. Можа якраз першым здабудзе двухсотага падпісчыка пісьманосец не з Рыбалаў, не з Пасынак і не з Дубічаў Царкоўных, а са Старога Корніна, Орлі, Клейнікаў, Храбалоў, Нараўкі, Новага Беразова, Старога Ляўкова, Трасцянкі, Чыжоў, Арэшкава, Ласінкі, Клюковічаў або, сёння гэта нялёгка адразу ўявіць, з іншай зусім, тут не прыведзенай пошты. Рознае ж здараецца. Асабліва ў спаборніцтве.

Сардэчна віншуем пісьманосцаў з узнагародамі ад рэдакцыі „Нівы“ і жадаем ім яшчэ лепшых дасягненняў у працы і ў асабістым сямейным жыцці.

**Я. Цялушэцкі**
Фота аўтара



*Удзельнікі гайнаўскай сустрэчы.*



## Валянціна Ласкевіч

**ЛЮДЗІ БГКТ**

Гэта яе прозвішча па мужу, а ў нашай арганізацыі яна вядомая як Валянціна Філіпюк. З яе асобай звязана цэлае дзесяцігоддзе самадзейнага мастацкага руху БГКТ.

Яшчэ ў пачатковай школе ў родных Рыбалах, што ў Заблудаўскай гміне, В. Ласкевіч актыўна ўдзельнічала ў розных вучнёўскіх тэатральных пастаноўках, а настаўніца А. Панасюк дала ёй не толькі грунтоўныя веды, але і шчырае замілаванне да роднай беларускай мовы. Потым, ужо з дыпломам агранома з сельскагаспадарчага тэхнікума ў Дайлідах, яна ідзе працаваць у Бельск і ўвесь свой вольны ад працы час прысвячае заняткам у Бельскім беларускім хоры і ў драматычным калектыве ў Рыбалах, выконвае розныя ролі, спявае, вядзе канферансье. У 1972 г. пераходзіць працаваць у ГП БГКТ, спачатку сакратаром Беластоцкага павятовага аддзела, а пасля — кіраўніком культурна-асветнага аддзела Галоўнага праўлення. У той жа час як канферансье вядзе ўсе нашыя цэнтральныя агляды і канцэрты

— Люблю я наша беларускае мастацтва, — заўважае В. Ласкевіч. — І за столькі год працы ў нашай мастацкай самадзейнасці пераканалася, што і іншыя людзі таксама любяць яго. Даволі глянуць у часе канцэрта ў залу, і ў вачах кожнага гледача можна прачытаць задавальненне, радасць, захапленне. І не толькі ў нашым, беларускім асяроддзі. Мне запамяталася турнэ бельскіх „Васілёчкаў“ па Быдгаскім ваяводстве тры гады таму па запрашэнню Куяўска-паморскага рэгіянальнага таварыства. Людзі слухалі нас з вялікім зацікаўленнем да нашага мастацтва. Або ў наступным годзе ў Сопаце на Аглядзе фальклорных калектываў нацыянальных меншасцей. Памятаю, калі на эстраду выйшлі нашыя самадзейнікі ў красачных касцюмах і паліліся беларускія народныя песні, гледачы былі ачараваны. З гэтага раблю вывад: нам трэба няспынна развіваць мастацкую самадзейнасць і павышаць яе мастацкі ўзровень. А ў сувязі з тым, што ў вёсках цяпер моладзі мала, неабходна пашырыць такія формы дзейнасці, якія адпавядаюць і старэйшым людзям.

У часе працы ў ГП БГКТ В. Ласкевіч шмат зрабіла ў справе зацікаўлення нашых самадзейнікаў мясцовымі народнымі песнямі. Між іншым, у Меляшках, гміна Гарадок, спачатку сама збірала жанчын, кіравала іх рэпетыцыямі, падбірала рэпертуар. Дзякуючы яе намаганням у конкурсе „Беларуская песня“ была ўведзена спецыяльная катэгорыя фальклорнай песні.

— Трэба таксама больш увагі адводзіць бэгэкатоўскай працы з настаўнікамі і перш за ўсё з тымі з іх, што навучаюць беларускай мове, — кажа яна. — Мы павінны арганізаваць з імі сустрэчы, вечарыны, экскурсіі, словам, утрымоўваць цесныя сувязі. Гэта будзе вельмі карысна і для пашырэння навучання роднай мове і наогул нашай дзейнасці.

Цяпер В. Ласкевіч працуе намеснікам кіраўніка аддзела рэкламы і пашырэння кнігі „Дома кнігі“ ў Беластоку. У сваёй працы заўсёды мае на ўвазе таксама і папулярызацыю беларускай кнігі.

— Мы штогод, у лістападзе, праводзім Дні савецкай кнігі, арганізуем спецыяльныя выстаўкі, між іншым, беларускай савецкай кнігі ў беларускіх ліцэях у Бельску і Гайнаўцы, у большых пачатковых школах. Праводзім таксама сустрэчы з нашымі пісьменнікамі А. Барскім і С. Яновічам. Цяпер намерваемся, раячыся з ГП БГКТ, рассылаць у школы, бібліятэкі і іншыя культурна-асветныя ўстановы спецыяльныя фармуляры-заказы з пералікам беларускіх кніг, якія знаходзяцца ў продажы.

Валянціна Ласкевіч з'яўляецца актыўным дзеячом БГКТ у Беластоку.

**Мікалай Гайдук**
Фота Я. Цялушэцкага

Сонечная майская нядзеля. Па радыё перадаюць аб святкаванні Дня Перамогі. А тут, у Белавежскай пушчы адна толькі прыгажосць! Аж карціць, каб улегчыся пад высокім, пазелянеўшым дубам на палянцы, залітай сонцам, ды слухаць... слухаць, як салаўі пяюць, як... трава расце...

...За леснічоўкай Лазіца паварочваем у 567-ы квартал Белавежскай пушчы. Найперш чую звонкую песню.

Пасылала мяне маці да
крынічанькі...

А пасля на прасторным зрубе, як кветкі на лугу, паявіліся рознакаляровыя ўборы жанчын, занятых працай. **Яны — з Арэшкава. Члены арэшкаўскага гуртка БГКТ і КГВ.** Лічу. 25 чалавек. Садзяць лес. У мінулым годзе лесарубы ачысцілі тут амаль чатыры гектары пушчы. Дрэва патрэбнае ўсім і ўсюды...

І вось гэтыя жанчыны, як добры лекар, зашываюць раны на здаровым целе адвечнай пушчы. Саджанцы зялёныя, дробненькія, далікатныя, быццам спецыяльна падрыхтаваныя для пяшчотных жаночых рук.



*Яны з Арэшкава...*

# РЭПАРТАЖ З ПАЧЫНУ

**Ніна Аверчук** — старшыня арэшкаўскага гуртка БГКТ, жанчына вясёлая і энергічная, коратка і талкова заяўляе:

— **Наш гурток БГКТ рашыў грамадскім чынам адзначыць з'езд Беларускага таварыства.** Дык дагаварыліся мы з лясніцтвам у Лазіцы, што будзем садзіць лес.

Найстарэйшай з іх — Тэклі Кот — ужо 68 гадоў, а Яўгенія Ярмоц — проста з вяселля ў свайго сваяка, дзе прагуляла ўсю ноч, з'явілася на пасадку лесу... Ды ўвогуле дружна жывуць і актыўна дзейнічаюць жанчыны з Арэшкава. Будзем пра іх расказваць яшчэ не адзін раз.

А цяпер трэба мне спяшацца ў Нараўкаўскую гміну. Тут, за вёскай Ільяшукі, на дарозе ў Міхнаўку сустракае мяне магутны грукат трактароў, у якім адчуваецца паскораны рытм нашага часу. **Трактарысты са спулдзельні сельгасгурткоў у Нараўцы, а дакладней кажучы з вёсак Міклашэва і Ляўкова, падвозяць жвір. Спяшаюць ім на дапамогу маладыя і старэйшыя жыхары Ільяшукоў і Міхнаўкі. Многа іх тут, вельмі многа... Адно толькі лапаты свішчуць у паветры і жвір струямі сыплецца...**

Працаваць прыйшло 39 чалавек з Ільяшукоў і 31 асоба з Міхнаўкі.

— З самай раніцы было тут у два разы больш людзей, чымсьці цяпер, — кажа Віктар Бура, вядомы дзеяч БГКТ і нападае на мяне з лаянкай, што я запозна прыехаў, што нібы абыякава адношуся да грамадскага чыну...

— Тут людзі працуюць ад світання, а вы там спіце, высыпаецеся...

Сапраўды, працуюць. Шчыра, ахвярна, як для сябе. Нават маладзенькая пані інжынер **Ірэна Засім,** якая прыехала наведаць бацьку, ухапілася за лапату. У буднішнія дні яна будуе дамы ў Гайнаўцы, а тут разам з іншымі пракладае дарогу да бацькоўскай хаты.

— Гэта для адпачынку, — смяецца яна.

Дырэктар мясцовай школы Аляксандр Харкевіч паддае рытму працы сваім падапечным вучням, солтысы з Ільяшукоў і Міхнаўкі прыбылі разам з аднавяскоўцамі...

Дэлегат на юбілейны з'езд БГКТ, старшыня гуртка гэтага ж таварыства ў Ільяшуках **Ян Харкевіч** заяўляе мне, каб я абавязкова адзначыў, **што пачынальнікамі гэтага пачыну з'яўляліся менавіта члены БГКТ.**

— **Гэта ў гонар нашага з'езду!**

Тое ж гаворыць і дарожны майстар Васіль Рубчэўскі, які з гордасцю заяўляе:

— **Працу сабраўшыхся тут сёння людзей ацэньваем у 62 тысячы злотых.**

Так яно і астанецца ў справаздачы. **Важнейшае аднак — гэта ўнутранае перакананне, што чалавек прымаў удзел у чымсьці карысным, патрэбным сабе і іншым і колькі разоў прыйдзецца прайсціся сухой нагой з Міхнаўкі ў Ляшукі ці назад, заўсёды падумаеш: тут мая праца, я гэта зрабіў.** І прыемна стане на душы. Вось сэнс і істота грамадскага чыну.

**Віктар Рудчык**

Фота аўтара



*На дарозе ў Міхнаўку...*

# БГКТ У ЛІКАХ

**У канцы 1975 г. Беларускае грамадска-культурнае таварыства складалася з 5 931 членаў, у тым ліку 2 698 жанчын (45% агульнай колькасці). Яны дзейнічалі ў 187 гуртках, што былі аб'яднаны ў 8 аддзелах нашай арганізацыі.**

✲

**План членскіх складчын за 1975 г. аддзелы БГКТ выканалі: беластоцкі гарадскі — у 84,6%, беластоцкі павятовы — у 49,1%, бельскі — у 50,5%, варшаўскі — у 61,4%, гайнаўскі — у 75,5%, гданьскі — у 100%, Мілейчыцкі — у 94,1% і сакольскі — у 5,1%. Разам у арганізацыі ўплочана 67,3% планаванай сумы членскіх складчын.**

✲

**Узрост членаў БГКТ: ад 18 да 30 год — 4 245 асоб (71% агульнага ліку), ад 30 да 40 — 964 асобы (17%) і звыш 40 год — 722 асобы (12%).**

✲

**Да БГКТ належыць: 996 рабочых (16,8% усіх членаў), 2 363 сялян (39,8 %), 1 752 асобы працоўнай інтэлігенцыі (29,5%), у тым ліку 298 настаўнікаў (5%), 820 вучняў сярэдніх школ і студэнтаў (13,8%).**

✲

**Члены БГКТ уваходзяць: 1 205 асоб (20,3% агульнага іх ліку) — у ПАРП, 430 асоб (7,2%) — ЗСЛ, 2 119 асоб (35,5%) — у ССПМ; 221 член БГКТ — гэта радныя гмінных і гарадскіх радаў народовых, а 2 члены ўваходзяць у склад Ваяводскай рады нарадовай; 1 304 члены БГКТ належаць да сельскагаспадарчых гурткоў.**

✲

**БГКТ праводзіць дзейнасць у 191 культурна-асветнай установе: 83 клубах „Руху", 44 клубах селяніна, 24 святліцах пажарных каманд і 40 святліцах ГРН. БГКТ самастойна вядзе 3 клубы: у Беластоку, Варшаве і Гданьску.**

✲

**Дзейнічае 108 самадзейных мастацкіх калектываў БГКТ, у тым ліку 30 харавых, 44 тэатральных, 4 танцавальных і 30 вакальна-музычных.**

✲

**У гадах 1972-75 БГКТ арганізавала 279 акадэмій і 242 вечарыны; правяло 299 лекцый і 232 даклады; дало 312 сеансаў савецкіх фільмаў; падрыхтавала 693 фотавыстаўкі; члены літаратурнага аб'яднання „Белавежа" правялі 167 аўтарскіх сустрэч з чытачамі.**

✲

**ГП БГКТ за гады 1972-75 выпусціла 6 кніжных выданняў агульным тыражом у 16 800 экзэмпляраў. Гэта былі: 4 гадавікі „Беларускі каляндар", „Навуковы зборнік" і зборнік вершаў В. Шведа „Дзяцінства прыстань".**

**(іс)**

**(Працяг са стар. 1)**

Звыш 70% членаў БГКТ — гэта людзі маладыя, і таму пашыраліся ў нас такія формы і напрамкі дзейнасці, якія адпавядалі зацікаўленням моладзі.

## У ГАЛОЎНЫМ ПРАЎЛЕННІ І КАМІСІЯХ БГКТ

Галоўнае праўленне БГКТ у сваёй працы кіравалася напрамкамі, акрэсленымі VII з'ездам таварыства і надзённымі патрэбамі. Адбылося 7 пасяджэнняў ГП, на якіх абмяркоўваліся, між іншым, такія праблемы, як праца ГП і праўленняў аддзелаў з грамадскім актывам і ўдзел актыву ў выкананні заданняў таварыства, праграма ўдзелу таварыства ў святкаваннях 30-годдзя ПНР, заданні БГКТ у святле Дырэктываў на VII з'езд ПАРП і ў справаздачна-выбарнай кампаніі таварыства і інш. Актыўна працаваў Прэзідыум ГП БГКТ, між з'ездамі ён правёў 36 пасяджэнняў, на якіх займаўся арганізацыйнымі справамі, а таксама шэрагам іншых праблем, між іншым, справай навучання беларускай мове ў школах, беларускага этнаграфічнага музея, выдавецкімі справамі, ацэнкай дзейнасці „Нівы", чытальніцтвам беларускай літаратуры і г.д. Лепш, чым раней, працавалі праўленні аддзелаў, якія звярталі больш увагі на ўзмацненне працы гурткоў, пашырэнне самадзейнасці і супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі. Аднак не ўсе яны змаглі заахвоціць да працы актыў і адпаведна ажывіць гурткі.

Актыўна працавалі камісіі і творчыя аб'яднанні БГКТ. Камісія культуры на 5 сваіх пасяджэннях займалася арганізацыяй конкурсаў „Беларуская песня" і тэатральных калектываў, справамі супрацоўніцтва з культурнымі ўстановамі, абмяркоўвала правядзенне культурных мерапрыемстваў таварыства і г.д. У цэнтры ўвагі камісіі асветы былі праблемы, звязаныя з навучаннем беларускай мовы. У апошнія гады наступіла значнае змяншэнне колькасці дзяцей, якія вывучаюць родную мову. Таварыства і асветныя ўстановы вельмі мала зрабілі, каб затармазіць гэты працэс і больш зацікавіць бацькоў і дзяцей беларускай мовай. Гэтая справа павінна стаяць і на павестцы дня працы новага Галоўнага праўлення. Літаратурная секцыя „Белавежа" правяла 10 пасяджэнняў, на якіх абмяркоўвала святкаванне 90-й гадавіны з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа, падрыхтоўку да друку зборнікаў твораў сваіх членаў, аўтарскія сустрэчы, дасягненні літаратурнага руху ў 20-годдзі БГКТ і інш., яно аб'явіла літаратурны конкурс у сувязі з XX гадавінай дзейнасці нашай арганізацыі. Навуковы гурток засяроджваў сваю працу на даследаванні тэм, звязаных з Беласточчынай і БГКТ, выданні чарговага „Навуковага зборніка" і падрыхтоўцы матэрыялаў да наступнага, абмеркаванні справы планаванага адкрыцця філіяла Беластоцкага музея ў Бельску і ўдзелу ў гэтым БГКТ; правёў ён таксама навукова-папулярную сесію, прысвечаную 20-годдзю БГКТ і „Нівы".

## КУЛЬТУРНА-АСВЕТНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

Яна была накіравана на ўдасканальванне працы ў асяроддзі і пашырэнне мастацкай самадзейнасці. БГКТ вяло яе ў 191 культурна-асветнай установе, дзейнічала 108 самадзейных мастацкіх калектываў. Сярод іх ёсць такія, што працуюць без перапынкаў па 20 год, як напрыклад, славуты хор з Гарадка, узнагароджаны медалем „Заслужаны для Беласточчыны", а таксама многімі дыпломамі і іншымі ўзнагародамі. Да актыўна працуючых належыць таксама харавы калектыў „Васілёчкі" з Бельска, які ў лютым 1975 г. адзначаў 10-годдзе сваёй дзейнасці, калектыў песні і танца з Белавежы, хоры з Дубяжына і Плёсак, вакальна-інструментальны калектыў „Каласкі" гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, тэатральныя і фальклорныя калектывы з Паўлаў, Скупава, Гарадка, Дабрыводы, Меляшкоў, Новай Волі, Арэшкава, Орлі, Тапчыкалаў, Піражкоў, Катлоў і іншыя. Яны, апрача ўдзелу ў конкурсах ГП БГКТ, са сваімі багатымі праграмамі выступалі на розных мясцовых урачыстасцях.

Вялікім поспехам карыстаецца конкурс „Беларуская песня", які папулярызуе беларускую песню, перш за ўсё народную, раскрывае яе багацце і прыгажосць, павялічвае зацікаўленне мясцовым фальклорам, адкрывае здольных народных спевакоў. У ім прымае ўдзел штораз больш выканаўцаў і слухачоў. З году ў год рэгулярна, але на пераменным узроўні праходзіць конкурс на лепшы тэатральны калектыў. Галоўным тормазам развіцця мастацкай самадзейнасці БГКТ з'яўляецца недахоп адпаведнага рэпертуару і належнай інструктарскай дапамогі калектывам. Дагэтуль тэатральнымі калектывамі кіруюць пераважна актывісты нашага таварыства, яны з'яўляюцца ў асноўным настаўнікамі і не заўсёды маюць адпаведную падрыхтоўку для вядзення мастацкага калектыву. Адной з цікавых форм дзейнасці БГКТ з'яўляюцца народныя фэстыны. Яны праходзілі пад лозунгамі: „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная", „30 год ПНР", „30 год перамогі над фашызмам", у бягучым годзе іх лозунг — „20 год БГКТ і „Нівы"! У гэтых сапраўды народных святах песні, танца і культурнага адпачынку прымае ўдзел вялікая колькасць людзей. Галоўнае праўленне, аддзелы і гурткі БГКТ арганізоўваюць штогод дзесяткі акадэмій, урачыстых вечарын, аўтарскіх сустрэч, дакладаў, лекцый, паказаў савецкіх фільмаў, выставак і фотавыставак. У апошнім жа чатырохгоддзі наша таварыства правяло звыш 300 канцэртаў самадзейных мастацкіх калектываў у розных мясцовасцях Беласточчыны, бельскія „Васілёчкі" зрабілі ўда-

# ХРОНІКА

■ 8 мая ў варшаўскім клубе БГКТ адбылася сустрэча старшыні ГП БГКТ Мікалая Самоціка і сакратара Янкі Зенюка са студэнтамі-завочнікамі беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Вёў сустрэчу член Прэзідыума ГП, кіраўнік беларускай філалогіі др Аляксандр Баршчэўскі. Гэтыя студэнты ў асноўным з'яўляюцца выкладчыкамі беларускай мовы ў пачатковых школах на Беласточчыне. Менавіта таму справам навучання беларускай мовы, адносінам да гэтага прадмета дырэктараў і паасобных настаўнікаў найбольш увагі было прысвечана на гэтай сустрэчы.

■ У варшаўскім аддзеле БГКТ 8 мая, у беластоцкім, бельскім, гайнаўскім, сямяціцкім (у Мілейчыцах) — 9 мая, а ў гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку — 12 мая адбыліся з удзелам членаў Прэзідыума ГП БГКТ пленарныя пасяджэнні, на якія былі запрошаны таксама дэлегаты, выбраныя на з'езд БГКТ. На гэтых пасяджэннях была падсумавана дзейнасць аддзелаў, а ў сувязі з новай адміністрацыйнай структурай у нашай краіне былі прыняты пастановы аб спыненні іх дзейнасці. Цяпер Галоўнае праўленне беспасрэдна будзе супрацоўнічаць з гурткамі БГКТ. У Варшаве, Гданьску і Беластоку ў гэтых адносінах нічога не зменіцца, апрача назвы — не аддзел, а гурток са сваім праўленнем будзе прадаўжаць культурна-асветную работу. Члены Прэзідыума ГП паінфармавалі прысутных аб падрыхтоўцы ГП БГКТ да з'езду, падзякавалі членам праўлення за іх працу і пажадалі ім далейшай актыўнасці ў працы гуртка. Пасля гэтага ўручылі яны дыпломы актывістам БГКТ.

(мх)



# ХУТКА БУДЗЕ ГЕКТАЛІТР

Гэта не жартачкі. То не вада, не малако, а кроў, аддадзеная пачэсна. Але пакуль займемся сённяшнім днём гміннага клуба пачэснага донарства ў Боцьках, звернем увагу на яго ўзнікненне. У 1973 годзе здарыўся няшчасны выпадак. Аднаго з працаўнікоў СКР-у пераехаў трактар, і ён быў амаль смяротна пакалечаны. Жыццё вісела на валаску. Адзіная надзея на выратаванне, як сказалі лекары, была ў крыві. Трэба было яе даць. Ахвотных ратаваць сябру жыццё было шмат. Вось менавіта гэтае здарэнне ды даклады аб значэнні крыві, з якімі пачала выступаць Зінаіда Купрыянюк, былая кіраўнічка мясцовага цэнтра аховы здароўя (зараз працуе ў бельскай бальніцы) і ляглі ў аснову ўтварэння клуба. Сваю дзейнасць распачаў ён у тым жа 1973 г. Цяпер налічвае аж 118 членаў, палова з якіх — гэта моладзь. Калі гутарка ўжо ідзе аб членах, то варта сказаць, што перш за ўсё гэта працаўнікі: СКР-у, ГС-у, ОРМО, мясцовага сушыльнага прадпрыемства, гміны і цэнтра аховы здароўя. За тры гады існавання клуба правялі восем донарскіх акцый і аддалі 64,4 літры крыві, што паставіла іх сярод найлепшых у ваяводстве. Праўда, гэты вынік можна было прадбачыць даўно, а менавіта тады, калі правялі першую акцыю, якая дала ім чацвертае месца.

118 членаў! І ўсе як адзін заслугоўваюць на пахвалу. Але ёсць такая старая праўда, што няма найлепшых, сярод якіх не было б найлепшых. Так і тут. Гэта тыя людзі, якія прычыняліся да ўзнікнення клуба. Вось, прыкладна, Янка Няхода, які даў 10 літраў, або старшыня Р. Свярчэўскі — 5 літраў. Ну, зразумела, нельга абмінуць і дзяўчат, якіх тут аж 35. Сярод іх наперад высоўваюцца сёстры Галена і Марыся Залеўскія, Гражына Анішчук, Ірына Лукашэвіч і іншыя. Зрэшты, хопіць толькі глянуць на колькасць узнагарод, і адразу можна ўбачыць, што гэта за клуб. Ну, паглядзіце. Залатых — 3, сярэбраных — 21, бронзавых — 41. Ці ж не шмат? А да таго далучаецца яшчэ касетны магнетафон як зборная ўзнагарода для цэлага калектыву.

Ну добра! Але ж дзейнасць не толькі ў донарскіх акцыях. Так, апрача гэтага наладжваюць тут розныя мерапрыемствы. Зразумела, гэта не танцавальныя вечарынкі, а цікавыя лекцыі з дакладчыцкай падкладкай, якія арганізуюць пры дапамозе кіраўніка мясцовага цэнтра аховы здароўя Мікалая Дораша, што з'яўляецца заадно і кіраўніком донарскага клуба, не толькі ў Боцьках, але і ў навакольных вёсках. У суме ўладзілі ўжо аж 40 такіх сустрэч, на якіх апрача дакладаў і конкурсаў паказваліся фільмы. Кожная такая паездка, кожная вечарынка — гэта вялікая карысць слухачам, а заадно і прыбыццё новых членаў.

Калі мы ўжо ў Боцьках, то варта звярнуць увагу і яшчэ на адну справу, якая, несумненна, вельмі блізкая донарству. Гэтыя самыя маладыя людзі пасеялі пры сваім клубе першыя зерні, з якіх узрос антыалкагольны гурток, які налічвае 80 членаў і з'яўляецца першым у цэлай боцькаўскай акрузе. Нават свой філіял, які разросся да дваццаці асоб, у Малочках залажылі. Ну, старшынёй зразумела з'яўляецца Р. Свярчэўскі. Хто ж іншы змог бы замяніць яго арганізацыйныя здольнасці. Дзейнасць таксама вядуць даволі цікавую. Найчасцей гэта конкурсы. Цікавым у апошні час быў конкурс на плакат (зразумела на тэму антыалкагольную), на нарысаванне якога далі ўдзельнікам толькі 5 хвілін. Даволі цікава выйшла. Цудоўную і карысную дарогу выбрала моладзь з Боцек і гміны. Ці ж няпраўда?

**М. Шаховіч**



## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-76

*Жаночы квартэт са Скупава на цэнтральным аглядзе „Беларуская песня-76".*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

# БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Калеснік Уладзімір,** Зорны спеў, 1975, стар. 400, цана 7 зл. 90 гр.

Кніга літаратурных партрэтаў М. Танка, Я. Брыля, заходнебеларускіх пісьменнікаў, а таксама артыкулаў пра славутую паэму „Песня пра зубра" М. Гусоўскага з пачатку XVI ст., пра беларуска-польскія сувязі, пра сучасную літаратурную Брэстчыну.

**Шамякін Іван,** Экзамен на восень, 1975, с. 432, цана 9 зл. 30 гр.

Зборнік склалі дзве кінааповесці і пяць п'есаў. Асабліва гэтыя апошнія („Не верце цішыні", „Дзеці аднаго дома", „Выгнанне блудніцы", „Экзамен на восень", „Баталія на лузе") могуць стаць вельмі ўдзячным матэрыялам для нашых тэатральных гурткоў.

**Жук Алесь,** Паляванне на старых азёрах, 1975, стар. 208, цана 4 зл. 80 гр.

Зборнік апавяданняў і аповесцей, тэмамі якіх з'яўляюцца характары, паводзіны і імкненні сучасных беларусаў. У цэнтры ўвагі аўтара знаходзяцца маральныя матывацыі паступкаў людзей і іх канфрантацыя.

**Лорка Федэрыка Гарсія,** Блакітны звон Гранады, 1975, стар. 168, цана 3 зл. 70 гр.

Выбраная лірыка буйнейшага іспанскага паэта XX стагоддзя ў перакладзе на беларускую мову Рыгора Барадуліна — сучаснага беларускага паэта. Артыкул аб творчасці Ф. Г. Лоркі належыць пяру К. Шэрмана. Зборнік выйшаў у серыі „Паэзія народаў свету".

**Скрыпка Міхась,** Ад смеху не ўцячэш, 1975, стар. 160, цана 4 зл.

Кніжка вершаваных фельетонаў, баек, гумарэсак, жартаў, сатырычных мініяцюр. Добрая і да падушкі і на сцэну для мастацкай самадзейнасці.

Спяваюць „Песняры", 1975, стар. 64, цана 23 зл. 10 гр.

Зборнік склалі песні з рэпертуару слаўнага беларускага ансамбля. Добрая рэч для нашых спевакоў!

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу: „Dom Książki", 15-089. Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(мг)



*Сцэна з п'есы „Гарадскія госці" А. Барскага ў выкананні вучняў бельскага белліцэя.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

лае турнэ па Быдгаскаму ваяводству, а хор з Гарадка канцэртаваў на Гродзеншчыне (у Бераставіцы). Вялікую ролю ў працы нашай арганізацыі адыгрывае наш тыднёвік „Ніва", на яе старонках публікуюцца матэрыялы па праграмнай дзейнасці таварыства, аб працы Галоўнага праўлення і Прэзідыума, аб ходзе ўсіх нашых мерапрыемстваў.

Члены БГКТ прымалі ўдзел у конкурсах „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная" і „Жыхары свайму гораду"; высокіх вынікаў у гаспадарцы дабіваюцца члены нашага таварыства ў Горным каля Гайнаўкі, Сухавольцах каля Кляшчэляў і дзесятках іншых сёлаў. Гурткі БГКТ у Залуках, Дубічах Царкоўных, Паўлах, Рыбаках, Дубяжыне, Гданьску, Беластоку і іншых мясцовасцях былі ініцыятарамі каштоўных грамадскіх пачынаў пры пабудове і рамонце дарог, крамаў, святліц, цэнтраў здароўя, пасадцы лесу, парадкаванні горада і г.д.

БГКТ дзейнічала ў цесным супрацоўніцтве з партыйнымі органамі, адміністрацыйнымі ўладамі, прафсаюзамі, аддзеламі культуры і шматлікімі грамадскімі і маладзёжнымі арганізацыямі.

„Падводзячы ітог мінуламу чатырохгоддзю, — сцвярджаецца ў канцы справаздачы, — з гонарам можам сказаць, што зрабілі мы многа. У нас ёсць ахвярныя людзі, якія поўнасцю выканаюць задачы, якія будуць пастаўлены перад нашай арганізацыяй палітычнымі і адміністрацыйнымі ўладамі і VIII з'ездам БГКТ".

# ТРЫБУНА чытачоў

## Фёдар Рысь

Фёдара Рыся ведаюць ўсе жыхары гміны Шудзялава і Крынкі. Ён радны Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку, член Ваяводскага камітэта ПАРП. А ў Шудзялаве ён — сельскагаспадарчы сакратар ГК ПАРП. З'яўляецца і радным гміннай рады.

Ён — і добры гаспадар. Гаспадарыць на 9 гектарах зямлі. Мае 8 галоў быдла, у тым ліку пяць кароў. У 1974 годзе пабудаваў вялікую абору. Сее найбольш ячменю і пшаніцу. Было ў яго два гектары падмоклай зямлі. Дык ён яе заараў і пасеяў траву. Цяпер тут косіць тры разы ў год. Падсявае больш, як 150 кілаграмаў мінеральных угнаенняў у чыстым складзе на гектар. Хоць многа ў яго работы на гаспадарцы, але час свой прысвячае і грамадскай працы. Узнагароджаны Залатым Крыжам Заслугі і знакам „Заслужаны для Беласточчыны“.

**Віт**




### ЖЫЦЬ

*Жыць — як гэта проста сказаць,*
*але жыць добра.*
*Быць сапраўдным чалавекам —*
*гэта цяжка.*
*І каб ісці ўпэўнена*
*па сваёй дарозе —*
*трэба ісці бадзёра,*
*каб не застацца ззаду.*

**Ірына Грыгарук**

### ЖВІРОЎНЯ Ў ОРЛІ

*Была ў нас жвіроўня,*
*з якой амаль штодня*
*жвір выбіралі*
*й дарогі будавалі.*

*Аж выйшаў матэрыял —*
*быў гэта ўжо сігнал,*
*што штосьці думаць трэба,*
*каб не ляжала глеба.*

*І рашылі перадаць эскаэру зямлю —*
*няхай з яе зробіць добрую раллю,*
*таму што ворнай зямлі ўбывае*
*і пашы для жывёлы не хапае.*

*Эскаэр згадзілася, ўзяла —*
*ляжыць зямля непадалёк сяла.*
*Выслала цягнік з вялікім плугам,*
*які тое месца зрабіў проста лугам.*

*Яшчэ добра было б і з „глінок“*
*зрабіць раўніну, як каток,*
*пасля пасеяць збожжа,*
*каб каласілася прыгожа.*

**К. Ляшчынскі**

---

вопыт і не давалі спакою мясцовым уладам. У іх паведамленнях усё часцей пачалі гучаць трывожныя сігналы.

Асабліва шмат паведамленняў пра партызан пачало з'яўляцца ў паліцэйскіх справаздачах і данясеннях старастаў пачынаючы з вясны 1922 года, калі Арлоўскі ўзначаліў баявыя групы, якія дзейнічалі ў ваколіцах Баранавіч, Нясвіжа, Ляхавіч, Лунінца, Целяхан, Ганцавіч, Століна і Клецка. І амаль у кожным з гэтых паведамленняў успаміналася імя атамана Мухі-Міхальскага. 20 красавіка 1922 года ў справаздачы аддзела бяспекі Навагрудскага ваяводскага ўпраўлення гаварылася, што за апошні час у Нясвіжскім і частцы Баранавіцкага павету пачаліся напады партызан на фальваркі асаднікаў і лясныя старожкі Радзівілаўскага лясніцтва. Адзначалася, што на чале арганізаванай партызанскай групы „стаіць нейкі Муха“.

Мінула некалькі дзён — і ў другім дакуменце Муха ўжо называецца „вядомым партызанскім атаманам“. Паліцэйскі чыноўнік паведамляў свайму начальству, што атрад Мухі складаецца з 500 чалавек, мае коней, кулямёт, а базай яму служаць лясы каля вёскі Дзяніскавічы, ваколіцы Мошніц і Галынкі.

Хто ж ён такі, Муха-Міхальскі, і чаму такую вялікую ўвагу аддавалі яму чыноўнікі, друк?

**(Працяг будзе)**

## У Піражках

Вёска ў Шудзялаўскай гміне — Піражкі. Як іншыя. Можа больш самастойная. Жыхары могуць ганарыцца, што іх бацькі не адраблялі паншчыны, і гэты факт, на падабенства шляхетчыны, аказваецца і цяпер вартым падкрэслівання.

Розніца паміж суседнімі вёскамі калі і была, цяпер заціраецца, і гэты працэс, здаецца, аднолькавы ўсюды. На пальцах рук можна палічыць сапраўдных гаспадароў, якія актыўна павялічваюць гадоўлю, ураджаі і даходы. Іх нямнога. Яны ва ўзросце, калі зямлі за рэнту яшчэ аддаць не могуць, а ўжо запозна, каб вучыцца і пераязджаць у горад.

У 1975 годзе шасцёра сялян аддало зямлю за рэнту, у гэтым годзе ізноў некалькі зробяць гэтак жа. Амаль усе маладыя ў горадзе.

Адбываецца гэта ў часы, калі ёсць сапраўдныя магчымасці добра гаспадарыць. Ёсць і машыны, і розныя мінеральныя ўгнаенні, ёсць і даступныя парады. Відаць, замала. Моладзь у пагоні за лёгкім гарадскім жыццём усё забываецца, што лепш на вёсцы можна жыць. Гэтыя магчымасці ёсць і ў Піражках. Паявіліся яны некалькі год таму назад, але адплыву моладзі ў горад не стрымала.

У Піражках вялікая святліца, машынная база, у якой могуць гаспадары наняць патрэбныя машыны, вялікая і добрая крама. Як будзе праз некалькі год у вёсцы? Вядома, цяпер ужо, што на вёсцы добра і культурна можна жыць, бо ёсць для гэтага ўмовы.

**Я. Бандарук**

### САМЫ МАЛЫ І САМЫ АКТЫЎНЫ

Самым маленькім гуртком, існуючым у Тэхнікуме сельскагаспадарчага рахункаводства ў Бельску, з'яўляецца статыстычны гурток. Ён налічвае 15 членаў, аднак дзейнасць яго вельмі актыўная. Апрача павышэння ведаў па сельскагаспадарчай статыстыцы, гурток цесна супрацоўнічае з Галоўным статыстычным упраўленнем у Варшаве.

У канцы кожнага школьнага года члены яго прымаюць удзел у агульнапольскім конкурсе на знаёмства і ўмеласць карыстання статыстычным гадавіком. У гэтай галіне за апошнія гады гурток займае заўсёды адно з першых месц у краіне сярод сярэдніх школ. Ад 1970 года ён заўсёды атрымлівае грашовыя, кніжныя і рэчавыя ўзнагароды. Таксама і за 1974/75 школьны год гурток атрымаў у лістападзе 1975 года з ГУС-у грашовыя ўзнагароды. За іх былі куплены кніжкі.

Самымі актыўнымі членамі ў гэтым гуртку з'яўляюцца Б. Садоўская, В. Раманюк і М. Яблонскі.

**Мікалай Няплоха**

### ПЕРАДАВІКІ З ГАЙНАЎСКАГА БЕЛЛІЦЭЯ

У рамках конкурсу „Вялікая айчынная вайна ў творах беларускіх пісьменнікаў“ у гарадской бібліятэцы ў Гайнаўцы былі праведзены акруговыя элімінацыі. Удзел у іх прымалі вучні гайнаўскіх школ, сярод якіх вядучую ролю адыгралі вучні гайнаўскага белліцэя. Іх адказы былі вельмі высока ацэнены камісіяй у складзе: В. Леўчук, Г. Вайсковіч, В. Сакоўскі і А. Харкевіч.

Найбольш папулярнымі з прачытаных твораў аказаліся апавяданні Быкава, якія (ў пераказе вучняў), захапілі ўсю камісію.

Найлепшымі былі: Юрка Краснапольскі — вучань IVб класа гайнаўскага белліцэя і Ніна Юзвюк — вучаніца таго ж ліцэя.

**Анатоль Ціханюк**
III б клас гайнаўскага белліцэя

### ДЗЕ? ШТО? КАЛІ?

9 мая 1976 г. а 4.10 на дарозе Белаусы—Янаў, непадалёку ад вёскі Тэалін, Station Станіслаў Г., які ехаў матацыклам, перакуліўся, у выніку чаго ўдарыўся галавой ў прыдарожнае дрэва і забіўся.

9 мая 1976 г. а 20.00 на дарозе Забалоцце — Зэрчыцы, Аляксандр Л., які неасцярожна кіраваў матацыклам, перакуліўся ў роў і забіўся.

7 мая г.г. а 22.20 ў Беластоку, на скрыжаванні вуліц Міцкевіча — Навоткі, Юзэф С. з Монек, які кіраваў самаходам „Фіят“, ударыў у самаход „Шкода“, якім кіраваў Ян К. з Беластока. Пасажыр „Шкоды“ Марыя М. і пасажыр „Фіята“ Юзэф Б. (абое з Беластока), моцна параненыя, апынуліся ў бальніцы.

## Беларускія паэты на Гайнаўшчыне

У красавіку два беларускія паэты — Алесь Барскі і Віктар Швед наведалі Гайнаўшчыну і правялі рад аўтарскіх сустрэч. Алесь Барскі сустрэўся з моладдзю школ № І, № 2 і № 3 у Гайнаўцы, а таксама са школамі ў Арэшкаве, Старыне, Дубічах Царкоўных, Клейніках, Ляўкове, Ляшуках, Луцэ і ў клубе ў Махнатым. Віктар Швед правёў сустрэчы ў беларускім ліцэі ў Гайнаўцы, у школах у Старакорніне, Грабаўцы, у клубе на вуліцы Горнае, у настаўніцкім клубе ЗНП у Гайнаўцы і ў клубах у Скупаве, Арэшкаве, Луцэ, Ляшуках.

Праведзеныя сустрэчы былі першымі пасля даволі доўгага перапынку. Сустрэчы сталі магчымымі дзякуючы прыхільнасці і матэрыяльнай падтрымцы палітычных, асветных, культурных і гаспадарчых улад Гайнаўшчыны.

Паэты Алесь Барскі і Віктар Швед, правёўшы сустрэчы, падкрэслівалі іх новую якасць; многа прысутных, цікавыя пытанні і выказванні. У час сустрэч быў устаноўлены свайго роду рэкорд. Алесь Барскі і Віктар Швед падпісалі слухачам 697 экземпляраў сваіх зборнікаў.

Алесь Барскі з асаблівай цеплынёй успамінае сустрэчу ў Клейніках, на якой прысутнічаў, між іншым, Мікалай Раманюк, выхадзец з вёскі, які ад І сусветнай вайны пражываў у Расіі, а потым у СССР. Апрача гэтага, Барскі быў прыемна здзіўлены характарам сустрэчы ў гайнаўскай бібліятэцы, дзе арганізатары закончылі вечар чытаннем яго вершаў на фоне музыкі Чайкоўскага.

Віктар Швед быў усхваляваны сардэчным прыёмам яго вучнямі школы ў Старым Корніне, якое ляжыць пасуседску з яго роднай вёскай Мора. У час гэтай сустрэчы паэт падпісаў 60 экземпляраў свайго зборніка „Дзяцінства прыстань“.

Пакідаючы Гайнаўшчыну, беларускія паэты выказвалі падзяку дырэктарам школ, настаўнікам беларускай мовы, загадчыкам клубаў „Руху“ і „Рольніка“, старшыням і мясцовым дзеячам БГКТ. Яны падкрэслівалі, што праведзеныя тут сустрэчы былі найбольш плённымі ў іх аўтарскіх падарожжах.

**В. Бура**

## Няма парадку

Вёска Катлы не мае добрай вуліцы. На вясковай вуліцы тут два пропусты. Адзін зусім заваліўся, і вада паплыла вуліцай і вымыла брук на ўсёй даўжыні. У мінулым годзе навазілі пяску і хацелі брукаваць, але неяк не выйшла, і ўсё так і засталося.

Другі пропуст таксама паламаны і калісьці напэўна нейкі неасцярожны самаход упадзе там у яму. Тады можа хто зоймецца гэтай справай, бо цяпер дык усе спяць. Равы на вуліцы завалены і ніхто пра гэта не думае.

**Н. А.**




**М. Лук'янюк.** Гумарыстычны верш „Мітрафан“ надрукуем. Цікавы, толькі выкінем чатыры апошнія лінейкі, бо яны нічога не гавораць. А што датычыцца фальклорнай песні, яе перадамо рэд. Гайдуку, які гэтым займаецца.

**Наумчук Аляксандр.** Не вельмі разумеем, што вы хацелі з гэтай песняй „Ой, сікорко, сікорэчко“ зрабіць? На ўсялякі выпадак перадамо яе рэд. Гайдуку.

**Яўген Анікіюк.** Вершы вашы яшчэ слабыя па стылістыцы. Старайцеся больш працаваць, не зважаючы, што пачаткі цяжкія.

**Малмышка Ірэна.** Верш „Жыццё дзяўчыны“ надрукуем. Толькі злітуйцеся, пішыце менш дэкаратыўным почыркам, цяжка чытаць.

**Міша Андрасюк.** Тры першыя вершы, прысланыя вамі, надрукуем.

**Марко.** Наследаванне народных напеваў у вашых вершах не надта выходзіць. Ці „Ружа“ — гэта не запіс нейкай народнай песні?

**П. Байко.** Будзьце добры, дарагі карэспандэнт, і вашы лісты да нас пішыце той жа — вашай беларускай прыгожай мовай, якой пішаце свае артыкулы!

**В. А.** Вашае „Кажуць, што...“ няяснае. Чаму людзі сказалі, што самі рассеюць угнаенні, а потым, пішаце, што „людзі не ведаюць, ці сеяць азот, ці не, бо можа і СКР пасее“.

## Навука з практыкай

У Тэхнікуме сельскагаспадарчага рахунказодства ў Бельску рознымі спосабамі вучні павышаюць веды па сельскагаспадарчаму рахункаводству, якое з'яўляецца ў гэтай школе прафесіянальным прадметам. Моладзь вучыцца на ўроках і на практычных занятках. Адным са спосабаў павышэння ведаў з'яўляюцца індывідуальныя практычныя заняткі вучняў у трэціх класах.

Згодна з праграмай навучання кожны вучань працуе 10 дзён у школьным годзе ў бухгалтарскім бюро. У гэтыя дні моладзь не бывае ўжо на ўроках. Каб моладзь магла больш выкарыстаць гэтыя заняткі, кіраўніцтва школы падпісала ўмову з ПГР-ам у Бельску. У кожны працоўны дзень па дзве асобы ідуць на прадпрыемства і там восем гадзін працуюць пад вокам адказных працаўнікоў. Гэта добрая практыка для вучняў.

**Мікалай Няплоха**

## Дзе купіць завесы?

Прачытаў я ў „Ніве“ артыкул „Па напільнікі ў Гарадок“. І рашыў прасіць цябе, „Ніва“, можа ты параіш, куды ж ехаць, каб купіць завесы для вокан. Бо ў нашых крамах — гарадскіх і вясковых — навокал нідзе гэтага тавару няма. За параду буду вельмі ўдзячны.

Сталы чытач „Нівы“
**Аляксандр Андрэюк,**
в.Істок

**Ад рэд.** Параіць тут павінен ГС у Гайнаўцы, адказны за ўласцівае забеспячэнне нашых вясковых і гарадскіх крамаў патрэбнымі людзям прыладамі. І не толькі параіць павінен ён. Але проста-напраста, даць у крамы завесы, няхай людзі не скардзяцца.

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

У нумары 6 ад 8 лютага змясцілі мы дзве невялікія заметкі: пра дарогу з Сакоў у Сухавольцы, што даўно папсаваная і трэба адрамантаваць яе, і пра пропуст на дарозе з Тапаркоў у Грабавец, што стаў непраездны.

Адносна першай справы — станоўчы адказ даў **Раён публічных дарог у Сямяцічах,** адносна другой — чакаем адказу **гміны з Кляшчэляў,** куды справу накіравалі. Спадзяемся і з Кляшчэлеўскай гміны добрага адказу.

W związku z zamieszczoną notatką prasową w Waszym czasopiśmie „Niwa” z dnia 8 lutego 1976 r. Nr 6/1041/ w sprawie naprawy drogi żwirowej Saki—Suchowolce oraz budowy przepustu na drodze Toporki—Grabowiec Rejon Dróg Publicznych w Siemiatyczach wyjaśnia co następuje:

1) Naprawę drogi żwirowej Saki—Suchowolce wykona RDP w Siemiatyczach poprzez dowiezienie żwiru (pospółki) oraz sprofilowaniu jej równarką w terminie do dnia 10 maja 1976 r.

2) Budowę przepustu na drodze gruntowej Toporki—Grabowiec winien wykonać Urząd Gminy w Kleszczelach, ponieważ tut. RDP nie posiada środków finansowych na roboty związane z utrzymaniem dróg gruntowych, a może jedynie je wykonać na zlecenie Urzędu Gminnego.

Z-ca Dyrektora d/s utrzymania
**K. Leszczyński**

У нумары 15 ад 11 красавіка змясцілі мы крытычную інфармацыю карэспандэнта пра няспраўную абслугу ў аптэцы ў Гайнаўцы на вул. 1 Мая — задоўгія чэргі. Дырэктар адказнага за аптэку прадпрыемства ў Беластоку стараецца выясніць справу. Ці задавальняе яна карэспандэнта і чытачоў, спрабуйце асудзіць самі.

W związku z notatką zamieszczoną w „Niwie” dnia 11.IV.76 r. przez P. Dubowicza, Przedsiębiorstwo Zaopatrzenia Farmaceutycznego „Cefarm” w Białymstoku wyjaśnia:

W aptece Nr 05-031 w Hajnówce jest zatrudnionych 15 pracowników (stan na 20.IV.76) w tym: 4 magistrów i 5 techników. Apteka jest otwarta od 7.30 do 21.00, a w niedziele od 9 do 13-ej. Przy I stole pracuje przeważnie dwie osoby. Są jednak dni, kiedy pracuje tylko jedna osoba. Wpływają na to: zwolnienia lekarskie, urlopy wypoczynkowe, przyjmowanie i sprawdzanie leków, odbieranie wolnych sobót.

Apteka stara się wszystkie prace nie związane bezpośrednio z obsługą klientów wykonywać w godzinach najniższego nasilenia ruchu, niemniej jednak całkowite wyeliminowanie kolejek nie jest możliwe.

Dyrektor
**mgr Antoni Dyląg**

**„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.**




Імпартгумар

# О так заўжды...

Крытыкавалі ў нас на сходзе Міхася Рудзюка. За прагулы, за п'янства ды іншыя непрыгожыя ўчынкі. Вырашыў і я выступіць. Бо накіпела на душы.

Папрасіў слова і рубаю:

— Ты ганьбіш калектыў, Рудзюк. Вось шматпаважаны Парфірый Сазонавіч, дырэктар наш, прагулаў не робяць. І жонку сваю не б'юць. Чаму з іх не бярэш прыкладу, га? Парфірый Сазонавіч, можа, і вып'юць часам, дык гэтага ніхто не бачыць. Залаты чалавек наш Парфірый Сазонавіч...

Толькі я разышоўся, а нехта ззаду тузае:

— Ты што, здурэў? — шэпча. — Гэта ж не юбілей Парфірыя Сазонавіча. Вось бачыш, як ён з твару змяніўся... Гневаецца...

Я перадыхнуў, азірнуўся навокал. Мой погляд упаў на галоўнага інжынера.

— Рудзюк — гэта, таварышы, не Парфірый Сазонавіч, і між іншым, не Інакенцій Якавіч. Вось жа пытаю цябе, золатка Рудзюк, ці ты бачыў калі-небудзь, каб наш галоўны інжынер сланяўся — прабачце за слова, Інакенцій Якавіч, — назюзюканы па цахах? Не было такога і не будзе! Не такі наш Інакенцій Якавіч!

Мяне зноў тузанулі. Я змоўк, але ўбачыў Талімона Свірыдавіча, галоўбуха.

— Як не дзіўна, таварыш Рудзюк, — працягваю, — але не бярэш ты прыкладу і з шаноўнага Талімона Свірыдавіча. Задумайся і глянь цвяроза... Ну... Хоць бы на экіпіроўку, гэтак кажучы, Талімона Свірыдавіча. Якая ахайнасць! Касцюмчык — нібы з іголкі. Кашуля заўсёды выпрасавана. Гальштук модны, але ў меру. І на „Жыгулях" раскошнічае. І дачу мае... А быў бы п'янюгаю непрабудным, то хіба меў бы ўсё гэта?

— Таварыш Стратыйчук! — пачуў я голас старшынствуючага. — Вы па сутнасці, па сутнасці...

— Па сутнасці? — перапытаў я. — Добра, скажу па сутнасці, глыбокапаважаны Анісім Анісімавіч. Як старшыня завкому, вы заўжды з намі. Па-бацькоўску клапоціцеся пра нас. І табе, даражэнькі Рудзюк, трэба вучыцца... Вучыся, чалавеча! Анісім Анісімавіч, або па-народнаму, па-прасцяцку проста Анісімавіч, — гэта наша гордасць, наш гонар, наша слава... Я выступаю з месца, але маю ахвоту зараз жа паціснуць вашу руку...

— Таварыш Стратыйчук, я вас пазбаўляю слова! — выгукнуў старшынствуючы, злосна дзвынкаючы па графіну. — Сядайце!

Я сеў. Ну і парадачкі... Ніколі не дадуць выказацца да канца...

**А. Кацюбінскі**
(Украіна)





— Ну што ты за мной цэлы дзень ходзіш? Не буду мяняцца!

## ГУМАР З...

### МАСТАКІ

Два мастакі пастаянна змагаліся за сваё майстэрства. Першы так слаўна намаляваў вінаградную гронку, што яе нават не можна было адрозніць ад сапраўднай. А калі ён павесіў свой малюнак на дрэва, дык птушкі падляталі і клявалі яго, як сапраўдны вінаград.

Тады другі мастак запрасіў першага да сябе ў госці і, паказаўшы на сцяну пад заслонай, сказаў:

— Мае творы стаяць за гэтай заслонай. Падымі яе і паглядзі!

Госць працягнуў руку, каб падняць заслону, ды выявілася, што гэта заслона намалявана на сцяне.

— Вось бачыш, — сказаў гаспадар, — калі ты сваім майстэрствам абдурыў птушак, дык я сваім — абдурыў мастака.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Стакгольмскі заапарк Скансен атрымаў аднойчы пісьмо з пытаннем: „Як можна дакладна ўстанавіць каралеўскую кобру?"

Адказ спецыяліста па змеях: „Калі пасля ўкусу кобры вы пражывеце звыш паўгадзіны, дык гэта не каралеўская кобра".

* ✲ *

— Гэта праўда, што вашага мужа адправілі ў псіхіятрычную бальніцу?

— Так, але зусім не як пацыента, а як дэтэктыва. У бальніцы аказалася пяць Напалеонаў, і патрабуецца высветліць, хто з іх сапраўдны.

* ✲ *

Шатландзец, уласнік невялікай фермы на выспе, пасылае ў магазін на беразе жонку з запіскай:

„Прашу пакупкі запісаць на мой рахунак. Я не мог даць ёй грошай, таму што лёд на рацэ ненадзейны".



**...Ён нічога не рабіў, ды ўсё роўна памыляўся.**

**...Ён жыў сваім жыццём за чужы кошт.**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*По просьбе Ірэны Ахрымюк з Беластока змяшчаем беларускую народную песню з рэпертуару „Песняроў"*

## Касіў Ясь канюшыну

Касіў Ясь канюшыну,
Паглядаў на дзяўчыну.

А дзяўчына жыта жала
Ды на Яся паглядала.

Ці ты Ясь, ці ты не,
Спадабаўся ты мне.

Кінуў Яська касіць,
Пачаў мамку прасіць:

— Люба мамка мая,
Ажані ж ты мяне.

— Дык бяры ж Станіславу,
Каб сядзела на ўсю лаву.

— Станіславу не хачу,
Бо на лаву не ўсаджу.

— Дык бяры ж ты Яніну,
Працавітую дзяўчыну.

Касіў Ясь канюшыну,
Паглядаў на дзяўчыну...



### ГАРБУЗ

*Здараецца ж такое: на гародзе*
*Пад сонцам вырас велікан-гарбуз!*
*Прыгожы, круглы, важкі — дзіва й годзе! —*
*Нібыта не гарбуз, а важны туз!*

*Глядзеў звысоку ён пры ўсім народзе*
*На землякоў, нібы на чарвякоў.*
*— Вы — драбяза, ды пры такой пародзе*
*Вас не адрозніш нават ад гуркоў!*

*Так выхваляўся ён, так надзімаўся —*
*Чуваць было, бадай, за тры вярсты!*
*Ды вось бяда — нябога не ўтрымаўся*
*І лопнуў, нібы выстрал халасты.*

*Мараль санета: калі ты зазнаўся —*
*Нутром сваім, як той гарбуз, пусты!*

**Алесь Звонак**

### МІКОЛКА

Міколку ўпершыню павялі на канцэрт. Калі ён вярнуўся дамоў, бабуля спытала яго:

— Ну, як, Міколка, хараша спявалі артысты?

— Не вельмі. Некалькі песенак ім давялося паўтарыць па патрабаванню публікі.

### ПАРАДА

Прачытаўшы рукапіс, яму параілі паставіць толькі адну кропку. На літаратурнай дзейнасці.

### ДАСТУКАЎСЯ

Афіцыянт прыняў заказ і надоўга знік. У наведвальніка скончылася цярпенне і ён грукнуў кулаком у стол. Афіцыянт з'явіўся мігам і... забраў стол.

### НЕАБАВЯЗКОВА

Бабуля: — Дзеці, хутчэй мыйцеся!

Дзеці: — Навошта? Мы пазнаем адзін аднаго па голасу.

### ТРАГЕДЫЯ

Дзяўчына пытае сяброўку:

— Цікавую кнігу ты чытаеш?

— Так, вельмі рамантычная гісторыя. Пры гэтым з трагічным фіналам!

— А што там здарылася?

— Ты разумееш, у самай апошняй главе герой вяртаецца да сваёй жонкі!



Гэтае пытанне трэба абмеркаваць.




### ДЭБАТЫ НА КУЛАКАХ

Калісьці наш беларускі Несцерка дыспутаваў са школяром жэстамі. Члены ж турэцкага парламента пайшлі яшчэ далей. Пачаўшы на сваім пасяджэнні гаворку пра дзяржаўны бюджэт, многія з іх пачалі выходзіць з сябе. Дайшоўшы да стану кіпення, дэпутат ад Народна-рэспубліканскай партыі Джэляль Пайдаш ускочыў са свайго месца, і ў адно імгненне дэпутат ад Партыі справядлівасці Алі Эльвэрдзі, які толькі што быў на трыбуне, апынуўся на падлозе і пры гэтым зусім не ў прамоўніцкай позе. Пачалася сапраўдная рукапашная. Паважаныя дэпутаты размахвалі кулакамі, накідваліся, як пеўні, адзін на аднаго. У азарце кулачных дэбатаў яны нават не заўважылі, як разбілі тэлевізійную апаратуру, кошт якой складае некалькі мільёнаў турэцкіх лір.

### СЯМЕЙНАЯ АВАРЫЯ

На вуліцах Токіо часта адбываюцца аўтамабільныя аварыі. Многія з іх — са смяротным зыходам. Большасць вадзіцеляў лічаць за лепшае ўцячы з месца злачынства. Некаторым сапраўды ўдаецца выйсці сухімі з вады. Такім „удалым" лічыў сябе і 35-гадовы Нубуа Нагучы, які паспеў імгненна ўцячы са скрыжавання, дзе ён збіў маладую жанчыну. Праз некалькі гадзін Нагучы даведаўся, што ахвярай аказалася... яго жонка.




**Рыкаць бяспечней за ўсё ў скуры тыгра.**